А. В. Вольскі, І. А. Гімпель

# ЛІТАРАТУРНАЕ ЧЫТАННЕ

Падручнік
для 2 класа ўстаноў агульнай сярэдняй адукацыі
з беларускай мовай навучання

У дзвюх частках

Частка 2

*Зацверджана*
*Міністэрствам адукацыі*
*Рэспублікі Беларусь*



МІНСК
НАЦЫЯНАЛЬНЫ ІНСТЫТУТ АДУКАЦЫІ
2011

УДК 821.161.3(075.2=161.3)
ББК 83.3(4Беи)я71
В71

Р э ц э н з е н т ы:
доктар філалагічных навук, прафесар *А. І. Падлужны*;
кафедра пачатковай адукацыі дзяржаўнай установы адукацыі «Мінскі абласны інстытут развіцця адукацыі» (старшы выкладчык кафедры *Т. А. Няборская*);
настаўнік пачатковых класаў дзяржаўнай установы адукацыі «Гімназія № 23 г. Мінска» *В. В. Барздова*

## Умоўныя абазначэнні:

 — пытанні і заданні да тэкстаў;

 — абагульняючыя пытанні і заданні да раздзелаў;

 — заданні павышанай цяжкасці;

 — слоўнік

**Вольскі, А. В.**
В71 Літаратурнае чытанне : падруч. для 2-га кл. устаноў агульн. сярэд. адукацыі з беларус. мовай навучання. У 2 ч. Ч. 2 / А. В. Вольскі, І. А. Гімпель. — Мінск : Нац. ін-т адукацыі, 2011. — 120 с. : іл.
ISBN 978-985-465-844-5.

**УДК 821.161.3(075.2=161.3)**
**ББК 83.3(4Беи)я71**

**ISBN 978-985-465-844-5 (ч. 2)**
**ISBN 978-985-465-842-1**

# ЗНОЎ ДА НАС ПРЫЙШЛА ЗІМА...



## ПЕРШЫ СНЕГ

*Міхась Лынькоў*

Надышлі замаразкі. Яны ўсё мацнелі і мацнелі. Ужо раніцамі зямля адзывалася пад нагамі лёгкім звонам. Кожны крок быў чуваць за некалькі кіламетраў па ўсім наваќоллі.

Сыпануў снег. Па ўсім было відаць, што намерыўся легчы ён ужо зусім сур’ёзна, аж да самай вясны. Снег сыпаў спачатку павольна, нібы з нейкім роздумам. Потым пачаў ісці так густа, што адразу на пеньчуках, на валуна́х з’явіліся пухнатыя белыя шапкі.

Над маладзенькімі елкамі, над малымі бярозкамі хутка выраслі снежныя шатры́. Некаторыя маладыя дрэўцы сагнуліся пад

цяжарам. Прыпалі верхавінкамі да самае зямлі, утварыўшы сотні і сотні беласнежных а́рак. Лес адразу ўпрыгожыўся новымі фарбамі.



Навако́лле — тое, што знаходзіцца навокал.
Валу́н — вялікі камень.
Шацёр — лёгкае пераноснае жыллё з тканіны, скуры, драўніны ці з галін і лісця дрэў.



А́рка — дэкаратыўнае збудаванне ў выглядзе варот.





1. З якім пачуццём пісьменнік піша пра першы снег? У чым ён бачыць прыгажосць зімы? Зачытайце.
2. Знайдзіце ў тэксце і прачытайце апісанне таго, што здарылася з маладымі дрэўцамі.
3. Якія малюнкі можна зрабіць да тэксту?
4. Падрыхтуйцеся да выразнага чытання твора.
5. Колькі месяцаў доўжыцца зіма? Як называюцца зімовыя месяцы?

# СНЕГ

*Васіль Хомчанка*

Зямля доўга ляжала голая, скамянелая ад марозу. А потым адной ноччу пайшоў снег і ўкрыў усё белай цёплай коўдрай.

Ромка дастаў з гары́шча лыжы і памчаўся ў поле. Раздолле для хлопца!

Ромкаў бацька таксама радуецца. Маладыя яблынькі ў садзе цяпер не замерзнуць. Карэнні іх добра ўкрыты снегам.

І мядзведзю ў бярлозе цяплей стала. Вожыку — у кучы лісця, мышцы — у нары.

Усім цёпла, усе радуюцца.

Толькі беднаму зайку слёзы. Да зімы не паспеў шэрую поўсць змяніць на белую.



Выскачыць на снегавую коўдру — усяму свету відзён.

Забраўся зайка пад куст і дрыжыць ад страху.



Гары́шча — памяшканне, прастора паміж столлю і дахам у хаце.



1. За каго вы радаваліся, перажывалі пры чытанні апавядання?
2. Якія пачуцці выклікаў у хлопчыка надыход зімы, першы снег? Пацвердзіце свае выказванні словамі з тэксту.
3. Чаму зайку не ўзрадаваў снег? Чаму дрыжаў зайка?
4. Прачытайце словы і выразы, з дапамогай якіх апісваецца жыццё раслін і жывёл зімой.
5. Прачытайце тэкст самастойна і падрыхтуйцеся да выразнага чытання. Звяртайце ўвагу на знакі прыпынку.

*6. Параўнайце тэкст «Снег» Васіля Хомчанкі з тэкстам «Першы снег» Міхася Лынькова на с. 3. У чым вы бачыце розніцу паміж імі? Які твор вам больш спадабаўся? Чаму?



## А КОЛЬКІ Ў ВАС?

*Максім Танк*

Заўсёды ў родным краі
Ў зімні час
Нямала выпадае
Снягоў у нас.

Сняжынка да сняжынкі —
Дзве сняжынкі;
Крупінка да крупінкі —
Чатыры будзе;
Завіруха, закрутуха —
Шэсць ужо будзе;
Мяцеліца, круцеліца —
Восем, здаецца.
Дадай яшчэ вясёлачку —
Сярэбраную зорачку,
І разам набярэцца
Дзевяць снягоў у нас.

Скажыце: а колькі ў вас?



1. З якім пачуццём паэт піша пра зіму? Якія словы і выразы выкарыстоўвае? Прачытайце.

2. Што вас зацікавіла ў гэтым вершы?
3. Як будзеце чытаць верш: павольна ці хутка? Чаму? Падрыхтуйцеся да выразнага чытання.
4. Прачытайце апошні радок верша і адкажыце на пытанне: «А колькі ў вас?»

## СІНІЦА І СНЯГІР

*Уладзімір Ягоўдзік*

Яны — як сястрычка і брат. Жвавая сінічка-невялічка і паважны прыгажун снягір, якога ў нас яшчэ называюць гіль. Улетку іх амаль не відаць. Ні ў вёсцы, ні ў горадзе. Хіба што ўбачыш у лесе. Хутчэй за ўсё ў яловым ці хваёвым, дзе яны выводзяць птушанят. Снягір — у гняздзе з сухіх яловых галінак, сінічка — нярэдка ў старым пакінутым дупле.



Восенню, з надыходам першых халадоў, сінічкі спяшаюцца да людскога жытла. Скачуць з галінкі на галінку перад вокнамі і жаласліва ціннькаюць:

— Сіверка! Сіверка! Сіверка!..

Значыць, недалёка ўжо зіма з яе калючымі маразамі і завірухамі. Трэба спяшацца рабіць кармушкі для нашых маленькіх крылатых сяброў.

Завітае ў госці да людзей і снягір. Як я заўважыў, часцей за ўсё напярэдадні Новага года, калі на двары лютуе мароз. Снегіры — даверлівыя птушкі, блізка падпускаюць да сябе. Глядзіш на іх — і здаецца, што гэта ружовыя цацачныя шарыкі з навагодняй святочнай ёлкі.



1. Чаму аўтар называе сінічку і снегіра сястрычкай і братам?
2. Чым яны падобныя? Чым адрозніваюцца?
3. З чым параўноўвае пісьменнік снегіра? Прачытайце.
4. Прачытайце тэкст самастойна і падрыхтуйцеся да выразнага чытання.

## СНЯГІР

*Мікола Хведаровіч*

Заснежыў студзень агарод,
Насыпаў гу́рбіны паўз плот,
**Прадзе снягоў валокны,**
Пазамарожваў вокны.

Прыціхлі птушкі, спяць звяры,
Ды не баяцца снегіры —
**Снуюць** па агародзе
І пры такой пагодзе.



Мароз трашчыць, снягі мяце,
Снягір, як макаў цвет, цвіце.
Спявае, весяліцца,
Марозу не баіцца...



1. Пра якую птушку гаворыцца ў вершы?
2. З чым параўноўваецца снягір у гэтым вершы? А ў творы Уладзіміра Ягоўдзіка?
3. Растлумачце значэнне выдзеленых слоў.
4. Ці ў аднолькавым тэмпе варта чытаць гэты верш? Што адчуваецца ў яго мелодыі?
5. Прачытайце верш самастойна і падрыхтуйцеся да выразнага чытання.

## ПАЦЕРКІ НА СНЕЗЕ

*Фама Рамашка*

Дзядуля тузануў ле́йцы. Конь спыніўся.

— Сядай, унучка, паедзем па сена.

Стажок стаяў за вёскай, на ўзлессі. Любачка згадала, як улетку тут красавалі кветкі, гойдалася на ветрыку высокая трава. А цяпер усё наўкола засыпана снегам. Стажок — бы вялікая снежная шапка.

Дзядуля скінуў са стажка снег. Узяў у рукі вілы. Неўзабаве ўсё сена ляжала на санях. Прыемна пахла сушанай травой.

— Ну вось, унучка, паехалі дадому, — сказаў дзядуля і ўзяў у рукі лейцы.

— Пачакай! — усклікнула Любачка.



На бялюткім снезе дзяўчынка заўважыла чырвоныя кропелькі. Нібы маміны пацеркі. Якое дзіва!

— Божыя кароўкі ў стажку перазімавалі, — сказаў дзядуля. — А цяпер могуць загінуць.

Шкада стала іх Любачцы. Улетку яна часта брала божых каровак на далоньку і пыталася: «Ці дождж, ці сонца? Калі дождж — сядзі, калі сонейка — ляці». Што ж рабіць? Дзядуля дастаў з кішэні кажуха карабок ад запалак. Любачка паклала ў яго сухія лісточкі і давай хутчэй збіраць божых каровак.

На двары гуляюць завірухі, а божыя кароўкі спакойна спяць у карабочку. Прыйдзе вясна, вынесе Любачка карабок з сенцаў і выпусціць іх. І зноў яны будуць прадказваць дзяўчынцы надвор’е.



Ле́йцы — вяроўкі, рамяні для кіравання коньмі ў запрэжаным возе, санях.



1. Якія «пацеркі» заўважыла дзяўчынка на снезе?
2. Што ўспомніла Любачка пра божых каровак? Прачытайце.
3. Што вырашылі ўнучка з дзядулем?
4. Падрыхтуйцеся да падрабязнага пераказу тэксту.

## ЁЛКА

*Пятрусь Граніт*

Запаліся, ёлка,
Рознымі агнямі.
Будзеш весяліцца
Ты сягоння з намі!..

Засвяціся ярка
Колерам вясёлкі,
Хай паскачуць дзеці
Ля зялёнай ёлкі!

Колькі ёлка дзецям
Радасці прынесла,
Да позняе ночы
Не змаўкалі песні!





1. Пра якое свята ідзе гаворка ў вершы? Што прасілі ў ёлкі дзеці?

2. Прачытайце радкі верша, у якіх расказваецца, колькі радасці прынесла дзецям ёлка.
3. Вывучыце верш на памяць.





Разгледзьце малюнак. Адкажыце на пытанні і выканайце заданні.

1. Якое свята намалявана?
2. Што робяць Дзед Мароз і Снягурка?
3. Якія касцюмы надзелі дзеці?
4. Раскажыце, як вы будзеце святкаваць Новы год.

*5. Не забудзьцеся павіншаваць з Новым годам бацькоў, настаўнікаў, сяброў, знаёмых. Намалюйце паштоўку. Складзіце віншавальны тэкст.

Прыкладны тэкст віншавальнай паштоўкі.

Паважаная Галіна Пятроўна!

Прыміце мае шчырыя віншаванні з Новым годам! Няхай ён прынясе Вам многа здароўя і бясконцае шчасце, а таксама добрых вучняў.

*Ваш вучань Алесь*

## Загадка

Калючая, іглістая,
Марозная, іскрыстая,
Пад Новы год прыйшла,
Дзецям радасць прынясла.

## НА РЭЧЦЫ ЗІМОЮ

*Якуб Колас*

Не сядзіцца ў хаце
Хлопчыку малому:
Кліча яго рэчка,
Цягнуць санкі з дому...



— Мамачка-галубка! —
Просіць ён так міла. —
Можа б ты на рэчку
Пагуляць пусціла?

Я не буду доўга,
Зараз жа вярнуся,
Трошачкі на рэчцы
Ў санках паважуся.

— Ну, ідзі пабегай,
Толькі апраніся
Ды глядзі ў пало́нку,
Сынку, не ўваліся.

Радасць і раздолле
Хлопчыку малому,
І не пазайздросціць
Ён цяпер нікому!



Пало́нка — незамерзлы або расталы ўчастак ледзяной паверхні ракі, возера.



1. Ці спадабаўся вам верш? Чым?
2. Чаму не сядзелася ў хаце хлопчыку?
3. Што ён папрасіў у маці? Прачытайце.
4. Куды адпусціла маці хлопчыка? Аб чым папярэдзіла? Зачытайце.
5. Вывучыце верш на памяць.

## ЧЫЕ НІТКІ?

*Змітро Бяспалы*

Пасля адлігі ўдарыў моцны мароз. А дрэвы голыя стаяць. Вось тут Дзед Мароз і спахапіўся: «Пашыю ім белыя кажушкі».

Усю ноч Дзед Мароз завіхаўся. Прачнуліся людзі раніцаю і ўбачылі, што **ўсе дрэвы ў інеі, як быццам у белых кажухах, стаяць.**

Ідзеш па зімовым лесе і бачыш, як на кожным дрэве вісяць белыя тоўстыя ніткі. Хто іх пачапляў? Дзед Мароз, калі кажухі шыў. Засталіся кавалкі — ён іх і пакінуў.

Бярэш гэтую нітку ў руку — яна на кавалачкі рвецца, рассыпаецца. Ды гэта ж

не ніткі, а павуцінкі. А здалёк глядзіш — вісіць безліч белых нітак.



1. Што гэта за тэкст: казка ці апавяданне?
2. Што задумаў зрабіць Дзед Мароз? Як ён працаваў? Зачытайце.
3. Як вы разумееце выдзеленыя словы?
4. Здагадаліся, чые гэта ніткі, хто іх на дрэвы павесіў?

## САМА!

*Эдуард Валасевіч*



Вавёрачка арэшак ухапіла,
І так і сяк яго на зуб бярэ,
Але ці не хапае сілы,
Ці дужа цвёрды той арэх,
Ды ён не паддаецца...
— Давай сюды! —
Матуля весела смяецца. —
Малая ты яшчэ... Дапамагу!
Бо кволенькія зубкі...
— Не дам! —
Вавёрачка надзьмула губкі. —
Сама я раскусіць змагу!

І што б вы думалі? Арэшак раскусіла!
Хоць не адразу... Ды сама!

Без цяжкасцей — і перамог няма,
Але настойлівасць дае і гарт, і сілы.



Гарт — тут: стойкасць, вынослівасць, набытыя ў барацьбе з цяжкасцямі.



1. Што гэта за тэкст: казка ці байка?
2. Якой вам падалася Вавёрачка?
3. Знайдзіце ў байцы выраз, які падобны на прыказку. Зачытайце.
4. Чаму вучыць байка?
5. Вывучыце байку на памяць.

## ПЕРШЫ СНЕГ

*Авяр’ян Дзеружынскі*

Лыжа ліжа белы снег.
На лыжні — вясёлы смех,
**Шчокі ружавеюць —**
**Лыжы хлопцаў грэюць.**

Там на саначках з гары
Пакаціліся сябры,
**Шчокі ружавеюць —**
**Санкі хлопцаў грэюць.**

Колькі радасці і ўцех
Нам прыносіць першы снег!
**Шчокі ружавеюць —**
**Іх сняжынкі грэюць.**



1. Што вы можаце сказаць пра гэты верш? Ці падабаецца ён вам? Чым?
2. Як вы разумееце выдзеленыя радкі верша?
3. У якім тэмпе вы будзеце чытаць верш?
4. Падрыхтуйцеся да выразнага чытання верша.

## ЯК РОБІЦЦА ЗАГАДКА?

*Уладзімір Мацвеенка*

Пачынаецца ўсё з адгадкі.

Возьмем, напрыклад, слова ЗІМА.
Што мы пра яе ведаем?
Зімой ідзе снег, лютуе мароз, замярзаюць рэчкі.

Можна напісаць так: «Замяло белым пухам сяло і палеткі. Праз рэчку хутка ляжа мост. Хто адкажа, што гэта?» — «ЗІМА».

Але ж атрымалася не вельмі цікава...

Пастараемся ўскладніць загадку, паспрабуем зрабіць яе вершаванай.

Белым пухам замяло
І палеткі, і сяло...
Мост праз рэчку хутка ляжа.
А што гэта, хто адкажа?

*(Зіма)*

Атрымалася больш цікава, і лягчэй запамінаецца. Ці не так?

Вось яшчэ загадка, паспрабуйце яе адгадаць і складзіце сваю загадку.

Нарадзілася ў лясочку,
Сярод сосен на пясочку.
Я стаю цяпер у зале,
Мяне дзеці прыбіралі...
Заўтра тут, як і штогод,
Заспявае карагод.

## ЯК ВАСІЛЁК ВУЧЫЎ УРОК

*Іван Муравейка*



Белы-беленькі дзянёк,
З хмары сыплецца
сняжок.
Шум і крыкі на катку,
Сумна толькі Васільку.

Ля акна адзін сядзіць,
Праз акно на двор
глядзіць.
Кніжка ўпала са стала,
Вучня новага знайшла.

Кот яе чытаць пачаў:
Трэба «мама», а ён — «мяў».
І ў Жучка занятак ёсць —
Ён грызе аловак, быццам косць.

Кажа маме Васілёк:
— Потым вывучу я ўрок,
Хоць хвілiначку пайду
Пагуляю па ільду.

І яго хвілiначка —
Нібы з гумы нітачка,
Расцягнулася яна
Аж да самага цямна.

Кажа маме Васілёк:
— Ранкам вывучу я ўрок.
Не паспеў раздзецца ён —
Да яго падкраўся сон.

Вельмі хутка ноч прайшла —
Быццам бы і не была.
Сонца стукае ў акно:
— Уставаць пара даўно.

І заплакаў Васілёк:
— Я не вывучыў урок...



1. Што вас рассмяшыла ў вершы?
2. Чаму засумаваў Васілёк? Куды ён папрасіўся ў маці? Што хлопчык ёй паабяцаў?
3. Чаму заплакаў Васілёк?
4. Як вы ацэньваеце дзеянні Васілька? Што вы параілі б яму?
5. Падрыхтуйце выразнае чытанне верша.

## ПТУШЫНАЯ ЁЛКА

*Зоська Верас*

### I

— Юрачка, устань, сынок, і паглядзі ў акно. Уначы снегу нападала.

— Як на снезе добра ўсё відаць! Як міла кругом, як прыгожа! Татачка, а там на галінцы што сядзіць, нейкі шэранькі клубочак?

— Гэта птушачкі, Юрачка. Яны-то не рады, што снег усё засыпаў, бо не маюць чаго есці. Ні зярнятка нідзе не знойдуць. Ды і зімна ім, маленькім. Бачыш, як наставілі пёркі?..

### II

Засумаваў Юрачка ды моцна задумаўся... Як шкода птушачак! Пад'еўшы, пабег да суседскага хлопчыка Вінцуся.

— Што ж, Юрачка, — прывітаў Вінцусь таварыша, — на саначкі пойдзем?

— На саначкі пойдзем, але ведаеш, Вінцусь, птушкі бедныя не маюць чаго есці.

— Ну дык што ж? Трэба іх накарміць!
— Накормім, накормім! — усцешыўся Юрачка. — А чым?
— Знойдзецца чым. Назбіраем крошак хлеба, крыху рознага збожжа...
— А дзе мы ім пасыплем? У снег няможна, бо не знойдуць, — непакоіўся Юрачка.
— Не, не ў снег, на дошчачку, а дошчачку на дрэва павесім... Ведаеш, Юрачка, на гэтай ялінцы, што каля плота расце...
— Дык гэта будзе птушыная ёлка?
— Так. Ну, ідзём...

## III

Умоманцік знайшліся і дошчачка, і шнуркі, і дроцікі, ды ўсё, што было патрэбна, і пачалося прыбіранне «ёлкі». Добра-такі хлопчыкі намучыліся, пакуль усё наладзілі. Але затое якая багатая была «ёлка» і колькі на ёй розных прысмакаў! На дошчачцы ляжалі крошкі хлеба, зярняты маку, жыта, ячменю, канопляў, сланечніку, лёну. На галінках віселі пучкі асоту,

чырванелі букецікі рабіны, чарнелі пацеркі ягад белага бэзу...

Рады былі хлопчыкі са сваёй работы і паспяшаліся схавацца, каб чаканыя госцейкі не баяліся ды хутчэй браліся за ежу.

## IV

Птушкі даўно заўважылі, што каля ялінкі нешта цікавае робіцца, але не мелі адвагі падляцець бліжэй. Прысутнасць дзяцей іх палохала.



Ды толькі хлопчыкі ўвайшлі ў хату, паміж птушкамі пачаўся рух. Пералятаючы з галінкі на галінку, з дрэва на дрэва, памаленечку шэрая грама́дка набліжалася да цудоўнай «ёлкі». Ужо зусім блізка. Адзін пералёт — і смачнае зярнятка было б у галоднай дзюбцы! Але як адважыцца? А можа, там прыгатавана сіло́!.. Не, лепш не глядзець. Ды як хочацца есці!..

V

Нарэшце адзін стары верабей адважыўся і падляцеў блізка. Пррр... І вось ён каля ялінкі. Здаецца, усё ціха. Трэба паспрабаваць нешта з'есці... Падляцеў, ухапіў канаплянае зярнятка і хутчэй наўцёкі... Маленькае сэрца моцна-моцна б'ецца... Ды дарма: нішто не злавіла, не трымае. Значыцца, усё добра. Голасна зачырыкаў верабейка, і на яго кліч уся грамада зрушылася з месца.

Падняўся гвалт, піск, чырыканне — усе апынуліся на ялінцы ды давай падмацоўвацца! Толькі зярняткі трашчалі...

За гадзіну на ялінцы не пазнаць было галінак. Каго, каго там не было! І сінічкі, і шчыглікі, і чыжыкі, і вераб'і, нават сойкі, сарокі і вароны.

Апошнім найбольш падабалася костка.

Але яна была толькі адна, а варон шмат, таму ўсчыналіся сваркі...

Праз акно, шчасліва ўсміхаючыся, паглядалі на сваіх госцейкаў Юрачка і Вінцусь.



Зі́мна — холадна.

Грамада́ — мноства чаго-небудзь, сабранага ў адным месцы: жывёла, птушкі, дрэвы, прадметы і г. д.

Сіло́ — пятля для лоўлі птушак і дробных жывёлін; пастка.



1. Чаму апавяданне называецца «Птушыная ёлка»? Знайдзіце і прачытайце ў тэксце словы, якія пацвярджаюць вашу думку.
2. Чаму засумаваў Юрачка? Свае выказванні пацвердзіце словамі з тэксту.
3. Што вырашылі зрабіць хлопчыкі? Якія прысмакі падрыхтавалі яны для птушак?

4. Чаму радаваліся хлопчыкі? Як яны паглядалі на сваіх госцейкаў?
5. Падпішыце малюнак словамі з тэксту.
6. Падрыхтуйцеся да пераказу (1–3-й або 4–5-й частак) тэксту.








1. Разгледзьце малюнкі.
2. Складзіце тэкст. Пачніце так: «Зімой птушкам мала корму. Хлопчыкі вырашылі...»
3. Дайце тэксту загаловак.

**Словы для выкарыстання:** *зімой, мала корму, кармушка, залезлі на дрэва, прывязалі кармушку, насыпалі корму, сябры птушак.*

## ГАЛКА

*Васіль Хомчанка*

У агародчыку зляпіў я Дзеда Мароза са снегу. Дзе вочы — чорныя вугольчыкі ўторкнуў. А нос зрабіў з вялікай жоўтай морквы.

У рукі Дзеду Марозу даў скрыначку і насыпаў туды зярнят.

— Частуй птушак, — сказаў я яму, а сам зайшоў у хату і стаў каля акна.

Прыляцела першая сінічка. Піскнула, села на край скрыначкі, дзеўбанула раз, другі. Потым снягір апусціўся побач. А нахабны верабей залез у кармушку з нагамі.

Чорная галка з бярозы таксама заўважыла кармушку. Пераляцела на самую ніжнюю галінку, але спусціцца на кармушку не адважылася. Пакуль галка сядзела так ды аглядвалася, птушкі ўсё падзяўблі і разляцеліся.

Галка скокнула ў кармушку, а ў кармушцы — пуста. Яна са злосці схапіла дзюбай моркву і паляцела з ёю.

І Дзед Мароз застаўся без носа.



1. Што ў творы падалося вам смешным? Чаму?
2. Падумайце, чым падобныя тэксты «Птушыная ёлка» Зоські Верас і «Галка» Васіля Хомчанкі.
3. Прачытайце, як паводзілі сябе птушкі ў кармушцы.
4. Чаму Дзед Мароз застаўся без носа?
5. Падрыхтуйце падрабязны пераказ тэксту.

## КАЛЯДКІ

*Артур Вольскі*

Гой, ладачкі-ладкі,
надышлі Калядкі!
Надышлі Калядкі —
напяклі аладкі.

Мы надралі та́ркаю
дранікі духмяныя.
Хочаш — еш са скваркаю,
хочаш — са смятанаю.

Вось вам, калі ласка,
з жэрдачкі каўбаска!
Вось кавалак пірага,
каб не брала вас туга́.





Гой, ладачкі-ладкі!
І мядок салодкі
да лясной гарба́ткі
наліём у сподкі.

І запахне ру́тай,
верасам, чаборам,
каб зімою лютай
нам не знацца з горам.

Бярыце з талеркі
лізунцы, цукеркі!
Цешце сябе, цешце,
галубкі́, галу́бкі!
Ешце ўволю, ешце,
ды не псуйце зубкі.

Бохан — поўняй яснаю.
Яйкі. Бульба. Скваркі.
Гэта ўсё — з уласнае
нашай гаспадаркі.

Калі вам прысмакі
прыйдуцца да смаку,
прынясіце людзям
шчырую падзяку.

Гой, ладачкі-ладкі —
пляскаем у ладкі.
Гой, ладачкі-ладкі —
святкуем Калядкі!



Та́рка — прадмет кухоннага ўжытку — металічная пласцінка з дзіркамі.



Туга́ — смутак, маркота.
Гарба́тка — чай з траў.
Ру́та — расліна з жоўтымі кветкамі.



1. Які настрой перадаў аўтар у вершы?
2. Што вы ведаеце пра свята Каляды? Калі яго адзначаюць? Якія песні спяваюць?
3. Якія стравы гатуюцца да свята? Зачытайце.
4. Раскажыце, як вы адзначаеце Каляды.
5. Прачытайце верш самі сабе і падрыхтуйцеся да выразнага чытання яго ўголас.

## ЧАМУ АДЗЕННЕ ГРЭЕ?

*Канстанцін Ушынскі*

Перш за ўсё трэба спытацца ў сябе: ці праўда, што адзенне грэе?

У сапраўднасці ж не кажух грэе чалавека, а, наадварот, чалавек аддае цяпло кажуху. Ды хіба можа быць інакш? Кажух жа — не печка. «Вось як? — спытаецеся вы. — А чалавек хіба печка?»

Вядома, печка! Стравы, якія мы з’ядаем, — гэта дровы, якія ў нас згараюць. Агню пры гэтым не відаць, але мы здагадваемся аб ім па тым цяпле, якое адчуваем у целе.

Цяпло гэтае трэба берагчы. Каб не выпускаць яго на вуліцу, мы будуем дамы з тоўстымі сценамі, зімой устаўляем другія рамы, абабіваем дзверы ля́мцам. Тое самае і з адзеннем. Замест таго каб грэць сваім целам паветра ў пакоі ці на вуліцы, мы грэем адзенне, а яно захоўвае гэтае цяпло каля нас. Вядома, адзенне наша таксама аддае цяпло, але не так хутка, як наша цела.

Такім чынам мы прымушаем адзенне мерзнуць замест нас.



Ля́мец — тоўсты шчыльны матэрыял, звалены з шэрсці, воўны.



1. Ці праўда, што адзенне грэе?
2. Як вы разумееце выразы: «У сапраўднасці ж не кажух грэе чалавека, а, наадварот, чалавек аддае цяпло кажуху», «А чалавек хіба печка?»? Падмацуйце свае выказванні словамі з тэксту.
3. Чаму цяпло трэба берагчы? Прачытайце.
4. Прачытайце тэкст самастойна і падрыхтуйцеся да адказу на пытанне, зададзенае ў загалоўку.

## ГАСПАДАРКА

*Змітрок Бядуля*

У куце сядзіць мядзведзь,
Хустку вышывае,
А лісічка-невялічка
Хатку прыбірае.



А каток пячэ аладкі,
Маслам залівае,
На тапчане мышанятка
Есці памагае.

А сабачка ўе вяроўкі —
Пугу для хлапчыны,
Дзяцел-бо́ндар на начоўкі
Длу́бае асіну.

Казёл лапці папраўляе,
Скуратóм мацуе,
На аконцы павучочак
Крóсенцы рыхтуе.



Бóндар — майстар па вырабе драўлянага посуду (бочак, дзежак, цаброў і г. д.).
Длýбаць — дзяўбаць, дастаючы штонебудзь, рабіць у чым-небудзь паглыбленне.
Скурáт — кавалак, абрэзак скуры.
Крóсенцы — маленькі ткацкі станок.



1. З якім пачуццём Змітрок Бядуля гаворыць пра заняткі майстроў – герояў верша?
2. Прачытайце, хто што робіць. Якія радкі верша ілюструе малюнак?
3. Зрабіце слоўныя малюнкі да кожнага слупка верша.
4. Прачытайце верш моўчкі і падрыхтуйцеся да выразнага чытання.
5. Вывучыце верш на памяць.

## НА ГОРЦЫ

*Мікалай Носаў*

### I

Зранку дзеці рабілі снежную горку. Зграбалі лапатамі снег. Калі горка была гатова, дзеці залілі яе вадой і пабеглі дамоў.

— Пакуль паабедаем, — казалі яны, — і горка замерзне. А потым прыйдзем з санкамі і будзем катацца.

А Коцька Чыжоў з шостай кватэры хітры які! Ён горкі не рабіў. Сядзіць дома ды глядзіць у акно, як іншыя працуюць. Дзеці клічуць яго горку рабіць, а ён толькі рукамі за акном разводзіць ды галавой матае — няможна яму. А калі дзеці пайшлі, ён хуценька апрануўся, начапіў канькі і выскачыў на двор. Чырк канькамі па снезе, чырк! І катацца як след не ўмее! Пад'ехаў да горкі.

— Во, — кажа, — добрая горка атрымалася! Зараз з'еду.

Толькі палез на горку — бух носам!

— Ого! — кажа. — Слізкая!

Разоў дзесяць падаў. Ніяк на горку ўзлезці не можа.

«Што рабіць?» — думае.

Думаў, думаў — і прыдумаў: «Пясочкам пасыплю і ўзлезу».

## II

Схапіў ён фанерку — ды да скрынкі з пяском. Нацягаў пяску і пасыпае перад сабой, а сам усё вышэй лезе. Узлез на самы верх.

— Вось цяпер, — кажа, — з'еду!

Адпіхнуўся нагой і зноў — бух носам! Канькі ж па пяску не едуць.

Ляжыць Коцька на жываце і кажа:

— Як жа цяпер па пяску катацца?

І палез уніз бокам.

Тут і дзеці прыбеглі. Бачаць — горка пяском пасыпана.

— Хто гэта горку пяском пасы́паў? — закрычалі яны.

— Гэта я пасыпаў, бо вельмі слізкая і я не мог на яе ўзлезці, — кажа Коцька.



— Які разумны! Бачыш, што прыдумаў! Як жа цяпер катацца?

Коцька кажа:

— Можа, калі-небудзь снег пойдзе, засыпле пясок, вось тады і катацца можна будзе.

— Снег, можа, праз тыдзень пойдзе, а нам сёння катацца трэба.

— Тады не ведаю, — кажа Коцька.

— Як сапсаваць, ты ведаеш, а як паправіць — не ведаеш! Бяры зараз жа лапату!

## III

Коцька ўздыхнуў і ўзяўся за лапату.

— Засыпай пясок снегам!

Коцька засыпаў горку снегам, а дзеці зноў палілі яе вадою.

— Вось цяпер, — кажуць, — замерзне, і можна будзе катацца.

А Коцьку так працаваць спадабалася, што ён яшчэ збоку лапатай прысту́пкі зрабіў.

— Гэта, — кажа, — каб усім добра было ўзлазіць, а то яшчэ хто-небудзь зноў пяском пасыпле!



Прысту́пкі — ступенькі, па якіх падымаюцца ўверх або спускаюцца ўніз.



1. Што ўбачыў Коцька праз акно кватэры? Чаму ён не працаваў з дзецьмі?
2. Чаму Коцька вырашыў пасыпаць пяском горку? Як да гэтага аднесліся дзеці? Што яны яму сказалі? Зачытайце.
3. Для чаго Коцька зрабіў прыступкі? Прачытайце.

4. Знайдзіце ў тэксце словы, якімі можна было б падпісаць малюнак.
5. Якая галоўная думка тэксту?
6. Перакажыце апавяданне.

## У МАРОЗНЫ ДЗЕНЬ

*Канстанцыя Буйло*

Лёд на возеры — празрысты,
Чысты,
Шклісты,
Моцны лёд.
І па роўнядзі ільдзістай
Закружыўся карагод.
Хлапчукі ўсе з нашай школы
Сталі сёння на канькі.
Не сціхае смех вясёлы
У марозныя дзянькі.



1. Чаму не сціхаў смех на возеры ў марозныя дзянькі?
2. Якім быў лёд на возеры? Зачытайце.
3. Прачытайце верш шэптам і падрыхтуйцеся да выразнага чытання ўголас. Прачытайце тэкст хорам.
4. Вывучыце верш на памяць.








Разгледзьце малюнкі. Адкажыце на пытанні і выканайце заданні.

1. Што робяць дзеці ў двары зімой?
2. Якімі гульнямі займаюцца?
3. Якую агульную назву можна даць малюнкам?
4. Складзіце тэкст на тэму: «Зімовыя забавы».

**Словы для выкарыстання:** *катацца, снежная баба, у снежкі, ляпіць, гуляць, на лыжах, на санках, у хакей, на горцы, вясёлы настрой, морква, лапатка.*

## ЛАСІ НА КЛАДЦЫ

*Васіль Гурскі*

За вёскай, пры лесе, раней было балота. Пасярод яго працякаў ручай, які ўпадаў у Нёман. Балота асушылі. А праз ручай дзеці паклалі шэсць чатырохметровых жэрдак, каб і бабулі-ягадніцы смела маглі пераходзіць, каб і веласіпед можна было пе-равезці на другі бераг.

Аблюбавалі кладку звяры.

Лісіца доўга тупала каля ручая: не хацела мачыць ногі. Прынюхвалася да жэрдак, прыглядалася, прыслухоўвалася. І асмелілася нарэшце, павольна пайшла па кладцы. Пасля вярнулася назад, пасядзела на беразе ды стала бегаць туды-сюды.

А вось лось толькі касаву́рыўся на кладку. Да самага снегу ён пераходзіў ручай у неглыбокім месцы. Але зімой да мокрых ног пачаў прыліпаць снег, замярзаць. Даводзілася адбіваць ледзякі, абгрызаць зубамі. Непрыемны гэта быў занятак, марудны ды надакучлівы. І балючы, бо ледзякі адрываліся іншы раз з поўсцю. Доў-



га нылі пасля ногі, напаміналі ласю, што небяспечна лезці ў халодную ваду.

Неяк ласіная сям'я рашыла разгрэбці капытамі снег і паласавацца зялёнай азімінай: яна расла ў полі, на другім беразе ручая. Лось першы падышоў да вады і спыніўся. Успомніў, мабыць, пра балючыя ледзякі на нагах. Пастаяў крыху і падаўся да кладкі, асцярожна ступіў на жэрдкі.

Непадалёку бегла лісіца. Яна спынілася, глядзела на лася і чакала, што вось-вось здарыцца бяда: кладка праломіцца і лясны рагач пакалечыць ногі. Але лось шчасліва перабраўся на другі бераг. А на кладку ступіла ласіха. За ёй, падахвочанае бацькамі, перайшло і ласяня.

Раніцой ішоў па сцежцы ляснік, убачыў сляды звяроў і ўсё зразумеў. Расказаў аб начной прыгодзе вяскоўцам. Многія не паверылі яму і самі хадзілі глядзець на ласіныя сляды на кладцы. А дзецям ляснік сказаў:

— Падзяка вам ад звяроў за надзейную кладку: лася вытрымала, усю яго сям’ю.

Так дзіцячая кладка стала служыць днём людзям, а ноччу — звярам.



Касаву́рыцца — глядзець коса, убок; касі́ць вочы.
Азі́міна — пасевы, усходы збожжавых культур, якія сеюць на зіму.



1. Чаму тэкст называецца «Ласі на кладцы»? Якія яшчэ загаловак можна да яго прыдумаць?
2. Якую добрую справу зрабілі дзеці для людзей і жывёлы? Як звяры паводзілі сябе, ідучы па кладцы? Зачытайце.
3. Пра што расказаў ляснік аднавяскоўцам?
4. Чаму падзякаваў ляснік дзецям? Каму стала служыць кладка? Пацвердзіце словамі з тэксту.

*5. Прачытайце тэкст і падзяліце яго на часткі ў адпаведнасці з планам.

План

1. Дзеці і кладка.
2. Звяры аблюбавалі кладку.
3. Ласі на кладцы.
4. Падзяка лесніка.

6. Падрыхтуйце пераказ тэксту па плане.



Чытаем, абагульняем, правяраем сябе па раздзеле **«Зноў да нас прыйшла зіма...»**.

1. Якія творы з раздзела «Зноў да нас прыйшла зіма...» больш за ўсё вам спадабаліся і запомніліся?

2. Назавіце аўтараў наступных слоў:

а) «Надышлі замаразкі. Яны ўсё мацнелі і мацнелі»;

б) «Божыя кароўкі ў стажку перазімавалі»;

в) «Зямля доўга ляжала голая, скамянелая ад марозу»;

г) «Пасля адлігі ўдарыў моцны мароз. А дрэвы голыя стаяць»;

д) «Перш за ўсё трэба спытацца ў сябе: ці праўда, што адзенне грэе?».

3. З якіх вершаў узятыя гэтыя радкі:

а) «Лёд на возеры — празрысты,
Чысты,
Шклісты,
Моцны лёд...»;

б) «У куце сядзіць мядзведзь,
Хустку вышывае,
А лісічка-невялічка
Хатку прыбірае...»;

в) «Запаліся, ёлка,
Рознымі агнямі.
Будзеш весяліцца
Ты сягоння з намі!..»;

г) «Лыжа ліжа белы снег.
На лыжні — вясёлы смех,
Шчокі ружавеюць —
Лыжы хлопцаў грэюць...»;

д) «Радасць і раздолее
Хлопчыку малому,
І не пазайздросціць
Ён цяпер нікому!»?

4. У якіх творах расказваецца пра жыццё птушак зімой? Выберыце правільны адказ:

а) «Сініца і снягір»;
б) «На горцы»;
в) «Пацеркі на снезе»;
г) «Птушыная ёлка».

5. Назавіце творы і прачытайце з іх урыўкі, якія адпавядаюць гэтым малюнкам:






6. У якіх творах расказваецца пра зімовыя забавы дзяцей? Выберыце правільны адказ:

а) «Першы снег»;
б) «Гаспадарка»;
в) «На горцы»;
г) «У марозны дзень».

7. Уявіце, што вы мастакі. Якія малюнкі вы намалявалі б да вашых любімых твораў з гэтага раздзела?

8. Успомніце вершы, якія вы вывучалі ў гэтым раздзеле, і падрыхтуйцеся да конкурсу на лепшага чытальніка.

9. Калі святкуюць Каляды? Якія стравы гатуюць да гэтага свята?

10. Перакажыце адзін з твораў на выбар:
а) «Галка»;
б) «Пацеркі на снезе»;
в) «На горцы».

*11. Прыдумайце цікавую казачную гісторыю пра тое, як сняжынкі — унучкі Дзеда Мароза — адправіліся ў сваё першае падарожжа.

# ІДЗЕ ВЯСНА Ў ШУМЛІВЫХ ВОДАХ...



## ВЯСНА ІДЗЕ

*Валерый Кастручын*

Засмяялася ў небе сонейка і пачало прамянямі лічыць на стрэхах ледзяшы.

— Дзінь-дзінь-дзінь, — як цымбалы, зазвінелі льдзінкі.

Забулькалі, заспявалі пад снегам ручаі. На старой таполі ацерабіўся, замахаў крыламі чорны грак.

«Убачыў грака — вясну сустракай» — кажа прымаўка. Снег у полі пацямнеў, набра́к і асеў. На ўзгорках чарнеюць craталінкі. У лесе на дрэвах набухаюць пупышкі. Весела звіняць сінічкі на голым вецці. Звонка грукае дзяцел на старой асіне. Грукаў, грукаў, аж разбудзіў мядзведзя. Вылез мішка з берлагу́, пачухаў за

вухам, зажмурыўся ад сонца і зароў на ўвесь лес: «Вясна ідзе!..»

Выскачыў з-пад кусціка маленькі зайчык. Працёр лапамі вочкі і здзівіўся — лес пацямнеў. Елачкі зелянейшыя сталі. Нават маму сваю не пазнаў: скінула яна свой белы кажушок, адзелася ў шэранькую світку і скубе на праталінцы леташні дзяцельнік.

Наўкола ўсё булькае, звініць і гукае: «Вясна ідзе-е-е!»



Ацерабі́цца — вызваліцца ад чаго-небудзь, атрэсціся.

Набра́кнуць — набрыняць, набухнуць, павялічыцца ў аб'ёме.

Сві́тка — доўгая сялянская вопратка з сукна.





Дзя́цельнік — дзікая канюшына.



1. Якія малюнкі прыроды апісаў пісьменнік? Прачытайце.
2. Як вы разумееце прымаўку: «Убачыў грака — вясну сустракай»? Якія прымаўкі яшчэ вы ведаеце?

3. Прачытайце тэкст самастойна і знайдзіце трапныя словы і выразы, якія расказваюць пра надыход вясны.
4. Перачытайце тэкст яшчэ раз і намалюйце словамі карціну вясны.
5. Падрыхтуйцеся да выразнага чытання тэксту.

## ШПАК

*Янка Журба*



Зніклі завірухі,
К нам вясна прыйшла,
Веснавое сонца
Многа шле цяпла.

Сёння раніцою
Прыляцеў к нам шпак,
Сеў ён на бярозцы
І спявае так:

«Выхадзіце, дзецi,
Сустракаць вясну!
Устала ўжо прырода
З зімовага сну».



1. Якая асноўная думка гэтага верша?
2. Як перадае свае адносіны да веснавой птушкі аўтар?
3. З якой інтанацыяй хочацца чытаць гэты верш? Чаму?
4. Падрыхтуйцеся да выразнага чытання верша.
5. Вывучыце верш на памяць.

## ПРЫЙШЛА ВЯСНА

*Зоська Верас*

### I

Хоць мароз яшчэ парою дакучаў, ды і снег яшчэ не зняў з зямлі сваёй белай посцілкі, але ж сонейка неяк мацней ужо грэла і залівала ціхія палі і сенажаці.

Яго магутныя прамяні ўпалі і на страху Янкавай хаткі і нават заглянулі праз аконца ўсярэдзіну. Янка адчуў іх цёплую ласку, зразумеў ціхі прызыў і, хуценька апрануўшыся, выбег у садок.

Там яго бацька ўважліва аглядаў кожнае дрэва ды адпілоўваў сухія непатрэб-



ныя галінкі, а пасля ачышчаў пні і грубейшыя сукі ад моху.

## II

Угледзеўшы Янку, бацька весела крыкнуў:

— Што, сынок, сустракаць вясну выйшаў?

— А дзе ж тая вясна? Снег усюды ляжыць, ды яшчэ гэтак сцюдзёна, — маркотна адказаў Янка, пацiраючы пачырванелыя ручкі.

— Пачакай, сынок, хутка будзе ўжо цёпла і хараша, — адказаў бацька. — Кожны дзень вясна да нас набліжаецца. Вось з гэтых пучкоў, што бачыш на дрэвах і кустах, вырастуць зялёныя лісточкі, палі зазелянеюць, а сенажаці і балоты пакрыюцца жоўтымі дыванамі малачаю і ма́тачніку. А яшчэ раней, як толькі сыдзе снег з лясных узгоркаў, глянуць на нас з-пад кустоў ляшчы́ны сіненькія вочкі пралесак. Помніш, колькі іх было летась?

— А помню, помню, татачка. Дык, значыцца, як закрасуюць пралескі, то ўжо будзе вясна? — пытаўся Янка.

Хацеў хлопчык яшчэ нешта папытацца ў таты, але ж той адышоў. Пастаяў Янка яшчэ крыху, падумаў ды пайшоў дахаты.

## III

У наступныя дні надвор’е было вельмі кепскае. Дробны дождж барабаніў у вокны ад раніцы да вечара, а вецер згінаў дрэвы аж да зямлі. Доўга прыйшлося сядзець Янку ў хаце. Аж нарэшце аднае ра-

ніцы сонейка неспадзявана выглянула з-за хмар і хлопчык выбег у садок. Якая перамена! Як цяпер інакш усё выглядала! Снегу не было нідзе ні крышку; праз жоўтую леташнюю траву прабівалася ўжо свежанькая зялёная траўка; кусты агрэсту пакрыліся маладзенькімі лісточкамі; высока ў небе звінеў жаўранак, а на страсе адры́ны стаяў бусел.



Ляшчы́на — тое самае, што і арэшына.
Адры́на — халодная будыніна для захоўвання кармоў, сельскагаспадарчага інвентару.



1. Чаму Янка не верыў, што вясна надышла?
2. Што на гэта адказаў бацька?
3. Ці задаволіў Янку адказ бацькі?
4. Як вы думаеце, што хацеў яшчэ спытаць у бацькі хлопчык?
5. Прачытайце самастойна размову бацькі з сынам. Размяркуйце гэты ўрывак па ролях і прачытайце яго.
6. Запішыце загалоўкі да кожнай часткі апавядання.

## СВЯТА

*Паўлюк Пранузa*

Спяць яшчэ пад снегам
Паплавы, палеткі,
І таму з паперы
Я зрабіла кветкі.




**І букет вясёлкай**
**Прамяністай ззяе,**
На стале ў вазе
Маму ён чакае.

Рада мама святу,
Рады мы таксама.
**Сонца ў вокны свеціць,**
**Светлае, як мама.**



1. Якія пачуцці перадае паэт у вершы?
2. Які падарунак падрыхтавала дзяўчынка маме?
3. Як вы разумееце сэнс выдзеленых радкоў верша?
4. Чаму радуюцца святу і дарослыя, і дзеці? Якія радкі верша пра гэта гавораць?
5. Навучыцеся чытаць верш выразна. Пастарайцеся ўявіць сабе прачытанае.
6. Вывучыце верш на памяць.

## РЭКІ ВЫЙШЛІ З БЕРАГОЎ

*Віталь Вольскі*

На рэках не скончылася яшчэ паводка. Рэкі выйшлі з берагоў і злучыліся ў нізінах з ляснымі рэчкамі, раўчукамі і балотамі ў адзін вялікі вадзяны прастор. Асобныя ўзвышшы ператварыліся ў астраўкі, на якіх ратуюцца лясныя звяры.

Вось сядзіць пад кустом цэлая грамадка зайцоў. Яны прытуліліся адзін да аднаго. Каля іх можна часам убачыць і лісіцу. Трывожна бегае яна па астраўку, пазірае на ваду, а на зайцоў не звяртае ніякай увагі, быццам іх тут зусім няма.

У сваю чаргу і палахлівыя, заўсёды асцярожныя зайцы нібы зусім не заўважаюць свайго лютага ворага. Перад тварам



агульнай небяспекі старая, адвечная варожасць часова забыта.

Калі падплысці да такога астраўка, можна ўсіх гэтых звяркоў пабраць рукамі і пасадзіць у лодку. Яны будуць сядзець ціха і мірна, пакуль лодка не наблізіцца да цвёрдай зямлі. Тады ўсе пасажыры паўскакваюць адразу са сваіх месцаў і, не чакаючы каманды, знікнуць у лесе, не падзякаваўшы нават за ратунак.



1. Што адбываецца ў прыродзе, калі рэкі выходзяць з берагоў? Як пра гэта напісана ў творы?
2. Ці назіралі вы за паводкай? Раскажыце.
3. Як вы думаеце, чаму «перад тварам агульнай небяспекі старая, адвечная варожасць» забываецца?
4. Прачытайце тэкст самастойна і падрыхтуйцеся да падрабязнага пераказу па плане.

План

1. Рэкі выйшлі з берагоў.
2. Грамадка зайцоў.
3. Ратунак.
4. Зніклі ў лесе.

*5. Паразважайце, як вы паводзілі б сябе ў дадзеным выпадку. Абгрунтуйце.

## ПЧОЛКА

*Янка Журба*




Веснавое сонца
Росы падбірае.
Вылецела ў поле
Пчолка залатая.

Ёй за шчырай працай
Весела на полі:
Луг прыбраны ў кветкі
І наўкол раздолле.

З рання да змяркання
Пчолка залатая
Лётае па кветках
Ды мядок збірае.

Шмат сабрала пчолка
Мёду з розных кветак,
Дома ім накорміць
Родных пчолак-дзетак.



1. Якой паказана пчолка ў гэтым вершы? Якія словы дапамагаюць уявіць яе?

2. Як працавала пчолка? Для каго яна збірала мёд?
3. Намалюйце словамі карціну, якая ўяўляецца вам пры чытанні паэтычных радкоў. Які настрой яны выклікаюць?
4. Прачытайце верш уголас так, каб сталі зразумелымі пачуцці, якія выказаны ў ім.
5. Вывучыце верш на памяць.

## НАША РОДНАЯ ПЛАНЕТА ЗЯМЛЯ

*Васіль Вітка*

Выйдзі ў поле і паглядзі, як далёка відаць усё наваколле. А самы край далягляду, здаецца, сыходзіцца з небам. І прастора канчаецца. А падыміся на самалёце: ты ўбачыш, як шырока раскінуліся лясы, палі, бягуць блакітныя стужкі рэк, далучаючыся да неабся́жнай марской прасторы. А ўсё яшчэ Зямля здаецца роўнай. А ці можна ўбачыць яе ўсю адразу? Можна. Нашы касманаўты ўбачылі. Людзі высаджваліся ўжо на Месяц. На бліжэйшых да

нас планетах пабывалі нашы касмічныя апараты і навуковыя станцыі. Яны прыслалі вельмі каштоўныя для навукі звесткі.



Неабся́жны — вялікі па працягласці, памерах.



1. Што вы ведаеце пра палёты чалавека ў космас? Раскажыце.
2. Хто быў першым касманаўтам? Якіх вы ведаеце касманаўтаў – нашых землякоў?
3. Ці адразу чалавек паляцеў у космас?
4. Хто былі першыя «пасажыры» на касмічных спадарожніках?
5. Як называецца адзенне, у якім людзі выходзяць у адкрыты космас? Апішыце яго.
6. Ці ведаеце вы, адкуль запускаюць касмічныя караблі і міжпланетныя станцыі? Як называецца гэтае месца?

*7. Складзіце невялікае апавяданне па тэмах «На касмічным караблі» (I варыянт); «Палёт у космас» (II варыянт).

## ВОЖЫК І РУЧАЁК

Казка

*Янка Галубовіч*

Восенню, калі пахаладала, знайшоў вожык у глухой мясцінцы трухлявы пень, зрабіў у ім гняздо з лісця і заснуў.

Доўга спаў вожык ці не, сам не ведае. Але аднойчы пачуў, што нехта трывожыць яго: усё бубніць і бубніць непадалёку. Высунуў пыску з гнязда, глядзіць — ручаёк весела журчыць.

— Прачнуўся сам і іншых будзіш, — папракнуў вожык. — А я не выспаўся яшчэ, ручаёк.

І зноў у гняздо пацiснуўся, заснуў. Раніцаю вочкі расплюшчыў і зморшчыўся, быццам горкую пілюлю праглынуў. Увесь бачок — мокры. Вылез з гнязда і бачыць: ручаёк пашырэў, да самага пня падступіўся.

— Ну, пачакай, назола! — зазлаваў вожык. — Я цябе зямлёю засыплю!



Хуценька перабіраючы ножкамі, падбег да ручайка, а той падхапіў яго і панёс.

Плыве вожык, ніяк да беражка прыстаць не можа. А наўкола — вясна. Лёгкі туманок над зямлёю сцелецца. Падбел расцвіў, пралескі яснымі вочкамі ўсміхаюцца. У сінім небе жаваранкі спяваюць.

Вожык і пра злосць сваю забыўся. Выбраўся з вады на беражок, сказаў:

— Дзякуй, ручаёк! Каб не ты, я і вясну праспаў бы ў цёплым гняздзечку.



1. Ці спадабалася вам казка? Чаму?
2. Якая яна — вясёлая, сумная, смешная?

3. Што хацеў зрабіць вожык, каб пазбавіцца ад ручайка-назолы? Прачытайце.
4. Што адбылося з вожыкам?
5. За што падзякаваў вожык ручайку?
6. У чым галоўны сэнс казкі?
7. Прачытайце тэкст яшчэ раз і перакажыце.

## ВЕСНАВАЯ РАНІЦА

*Авяр'ян Дзеружынскі*

Ціха абуджаюцца
Росныя палі,
**Веснавая раніца**
**Крочыць па зямлі...**

Промнямі агністымі
Саграе зямлю,
Зерні залацістыя
Кідае ў раллю.

А як напрацуецца,
На спачы́н ідзе,
**Ніваю красуецца**
**Цэлы ве́сні дзень.**





1. Як апісвае паэт веснавую раніцу?
2. Як вы разумееце выдзеленыя словы?
3. Знайдзіце словы і выразы, пры дапамозе якіх аўтар паказвае вясну як жывую істоту. Прачытайце.
4. Прачытайце верш уголас, захоўваючы патрэбную інтанацыю.
5. Вывучыце верш на памяць.

## БЯРОЗКА

*Мікола Янчанка*

З-пад мосціка, у шчыліну паміж дошкамі, прабілася бярозка. Яна прагна цягнулася да сонца і шапацела зялёным лісцейкам. Быццам прасіла ў людзей прабачэння, што вырасла ў такім нязручным месцы. І людзі шкадавалі яе. Праязджаючы па мосціку, шафёры і трактарысты крыху збочвалі, каб не зачапіць дрэўца.

Але кожны раз я падыходзіў да мосціка з нейкай трывогай у сэрцы. А што, калі... І толькі ўбачыўшы бярозку, супакойваўся. Супакойваўся і радаваўся, што няма сярод нас нядобрых людзей. А потым ра-

шыў: няма і няхай не будзе. Узяў рыдлёўку, выкапаў бярозку і пасадзіў яе каля дарогі.

Цяпер яна ўжо вялікая.



1. Ад чыйго імя вядзецца гаворка ў апавяданні?
2. Ці спадабаўся вам тэкст? Чым?
3. Дзе вырасла бярозка? Як адносіліся людзі да яе? Якое пачуццё ў вас выклікае бярозка?
4. Чаму радаваўся аўтар? Што ён зрабіў?
5. Падрыхтуйцеся да выразнага чытання тэксту. Пры чытанні ўголас звярніце ўвагу на знакі прыпынку.

## Загадка

Стаіць Алёна — хустка зялёна,
Гонкі стан, белы сарафан.

## ПТУШЫНЫ ІНТЭРНАТ

*Яраслаў Пархута*

Аднойчы ў таполі навальніца зламала вяршаліну. Людзі заўважылі непарадак, усцягнулі на дрэва стару́ю бара́ну і сказалі:

— Няхай хоць птушкам паслужыць.

І праўда. Вясною прыляцелі аднекуль буслы і пачалі завіхацца — майстраваць гняздо.

Носяць сухія галінкі, шматкі моху, леташнюю салому і радуюцца. Хутка зажывуць у новым доме!

А вераб'і ўвесь гэты час гойдаліся на галінках і толькі пасміхаліся:

— Ці ў ім жыцьмуць?! Ці ў ім жыцьмуць?!

Іх падтрымалі шпакі:

— Дарма ўюць! Дарма ўюць!

А буслы нарэшце закончылі будаўніцтва і з вясёлым клёкатам паведамілі, якое ў іх цудоўнае жытло атрымалася. Вераб'і першыя спахапіліся і пачалі прасіцца ў падсуседзі.

Буслы падумалі-падумалі і дазволілі вераб'ям пасяліцца разам.

Шпакі ад зайздрасці ажно свіснулі: маўляў, не шкодзіла б і ім прысуседзіцца!

— Такі клопат! Такі клопат! — сказалі буслы і шпакам таксама далі дазвол.

Але як ні стараліся шпакі прыстроіцца да буслінага гнязда — не змаглі. І тады з ельніку прыляцеў дзяцел і пачаў рабіць ім дупло. Ніжэй буслінага жытла, ніжэй вераб'інага... А калі ўбачыў, што кватэра шпакам цудоўная выйшла, дык рашыў заадно і сабе дупло змайстраваць.

На старой таполі нібы інтэрнат атрымаўся.

Але аднойчы рыжы кот Фядот вырашыў праверыць буслянку, і тут дзяцел першы ўзняў трывогу. Стукнуў тройчы ў сук:

— Кот-кот-кот!

Усхапіліся шпакі ды заваґаліся:

— Біць ці не? Біць ці не?

— Біць-біць-біць! — закрычалі вераб'і, кінуліся ў атаку і пачалі калашмаціць Фядота — ажно рыжая поўсць паляцела.

Тут і шпакі пасмялелі, памагаць пачалі. А калі на той гоман з бліжняга балотца прыляцелі бусел з бусліхаю, на таполі быў поўны парадак. Бусляняты спрасонку пазяхалі на мяккай пасцельцы. Шпакі з ве-

раб'ямі абмяркоўвалі нядаўнюю падзею. А кот Фядот ляжаў у крапіве́ і лічыў сінякі.

З таго часу жыхары птушынага інтэрната жывуць спакойна. А кот Фядот за вярсту абходзіць старую таполю.



1. Як па-іншаму можна назваць гэты твор? Прыдумайце свой загаловак.
2. Для чаго людзі ўсцягнулі на таполю барану? Чаму лічыцца шчаслівай прыкмета, калі ў двары ці ў вёсцы гняздуюцца буслы?
3. Хто папрасіўся да бусloў у падсуседзі?
4. Што вырашыў зрабіць кот Фядот? Хто першы прыйшоў на дапамогу буслам?
5. Чаму кот Фядот за вярсту абходзіць старую таполю?
6. Падрыхтуйце пераказ па плане.

План

1. Барана на таполі.
2. Буслы майструюць гняздо.
3. Падсуседзі.
4. Бойка.
5. Кот Фядот лічыць сінякі.

## ВЯСНОЙ

*Змітрок Бядуля*

Грэе сонца, свеціць сонца,
Блішчаць кветкі і трава.
Ўсюды радасць, гул бясконца,
Пяюць жабы: «Ква-ква-ква!»

Шэпчуць дрэвы, журчыць
рэчка,
Квокчуць куры на дварэ.
Скок і скок на луг авечка.
Раздаецца: «Мэ-мэ-мэ!»

Дзеткі-птушкі вядуць гулі
На бярозавым суку.
Вясну кліча птах-зязюля,
Зычна кліча: «Ку-ку-ку!»





1. Які настрой выклікаў у вас гэты верш?
2. Як паводзяць сябе вясной кветкі і трава, жабы, авечкі, птахі? Прачытайце.
3. Як трэба чытаць верш: павольна або хутка?
4. Прачытайце верш самі сабе і падрыхтуйцеся да выразнага чытання.
5. Вывучыце верш на памяць.

## ВЕЧНЫ АГОНЬ

*Еўдакія Пяршай*

Пасярод плошчы стаіць высокі помнік. Перад ім гарыць Вечны агонь. Да помніка падыходзяць людзі: і старыя, і маладыя, і дзеці. Стаяць, маўчаць. Многія сюды прыносяць кветкі.

Верачка прыйшла да помніка разам з мамай. Дзяўчынка была ў святочнай сукенцы. У руках яна трымала чырвоную ружу. Ад ветрыку шапацела лісце ліп, варушыліся стужкі на вянках, што прынеслі да помніка людзі.

— Мама, — пытае Верачка, гледзячы на трапяткое жоўтае полымя ля помніка, — чаму гэты агонь называецца Вечным?



— Таму, што ён будзе гарэць заўсёды і напамінаць пра тых, хто загінуў за нас з табою.

— Ён ніколі не згасне?

— Ніколі. Бо гэты Вечны агонь памяці гарыць не толькі тут, ля помніка, а і ў людскіх сэрцах.

Маці стаяла моўчкі. Маўчала і Верачка. Потым яна нахілілася і паклала ля помніка сваю кветку.



1. Якія пачуцці ўзніклі ў вас пры чытанні гэтага твора?
2. З кім пайшла Верачка да помніка? Што яна там убачыла?
3. Чаму агонь называецца Вечным? Падмацуйце свае выказванні словамі з тэксту.
4. Ці ведаеце вы прозвішчы герояў, якія загінулі ў час Вялікай Айчыннай вайны? Як ушаноўваецца іх памяць у нашай краіне?
5. Пры чытанні тэксту пастарайцеся перадаць настрой аўтара і вашы ўласныя адносіны да прачытанага.
6. Падрыхтуйцеся да пераказу апавядання.

## БУСЕЛ ВЕРНЫ БЕЛАРУСІ

*Віктар Швед*



Бусел з Афрыкі гарачай
Родную зямельку ўбачыў.
Зноўку з выраю вярнуўся
Да айчыннай Беларусі.

Ён з бусліхай-прыгажуняй
Распазнаў гняздо на клу́ні.
Хутка ў буслоў цыба́тых
Будуць дзеці-бусляняты.

Дзеці вырастуць праз лета
І пакінуць свой палетак.
Прыляцяць увесну. Бусел
Заўжды верны Беларусі.



Клу́ня — будынак для складвання сена.
Цыба́ты — высокі, тонкі, даўганогі.



1. Адкуль вяртаюцца буслы з выраю? Куды яны прылятаюць?

2. Да слова «айчынная» падбярыце словы з блізкім значэннем.
3. Дзе звычайна будуюць гнёзды буслы?
4. Прачытайце той урывак з верша, да якога зроблены малюнак. Якія яшчэ ілюстрацыі можна было б зрабіць да гэтага твора?
5. Падрыхтуйцеся да выразнага чытання верша. Выберыце адпаведны тон, тэмп чытання. Правільна вымаўляйце словы.

## СЫНЫ

*Валянціна Асеева*

Тры жанчыны бралі ваду са студні. Побач на камені сядзеў стары дзед, адпачываў. Разгаварыліся жанчыны пра сваіх сыноў. Адна кажа:

— Мой сынок спрытны і дужы — ніхто з ім не зраўняецца.

— А мой дык спявае, як салавей. Ніхто такога голасу не мае, — кажа другая.

А трэцяя маўчыць.

— Што ж ты пра свайго не скажаш? — пытаюцца ў яе суседкі.

— А што сказаць? — адказвае жанчына. — Нічога ў ім асаблівага няма.

Вось набралі жанчыны поўныя вёдры вады і пайшлі. А дзядок за імі. Ідуць жанчыны, спыняюцца, Баляць рукі, плёскаецца вада, ломіць спіну.

Раптам насустрач тры хлопчыкі выбягаюць. Адзін цераз галаву куляецца, каменне нагамі падкідвае. Цешацца з яго спрыту жанчыны.

Другі песню спявае, салаўём заліваецца. Заслухаліся жанчыны.

А трэці да маткі падбег, узяў у яе вёдры з вадою і панёс іх.

Пытаюцца жанчыны ў дзеда:

— Ну што? Як вам падабаюцца нашы сыны?

— А дзе ж яны? — адказвае дзядок.— Я толькі аднаго сына бачу.

І дзядок паказаў на хлопчыка, які ў маткі вёдры ўзяў.



1. Чым спадабаўся вам тэкст?
2. Пра што размаўлялі жанчыны каля студні?

3. Чаму дзядок адказаў, што ён бачыць толькі аднаго сына?
4. Якая асноўная думка тэксту?
5. Прачытайце тэкст самастойна, падзяліце яго на часткі. Дайце ім загалоўкі.
6. Падрыхтуйцеся да выразнага чытання і пераказу тэксту.

## КОЛЕРЫ ГОДА

*Іван Муравейка*



— Самы прыгожы —
колер зялёны, —
у маі шапталі
бярозы ды клёны.



— Самы гарачы —
золата колер, —
улетку звінела
жытнёвае поле.



— Самы ярчэйшы —
колер чырвоны, —
увосень рабіна
шумела штодзённа.



— Самы бліскучы —
колер бялюткі, —
спявала зіма
ў завеевы дудкі.

А дзеці сказалі
прасторам і сонцу:
— Усе колеры года
мы любім бясконца!



1. Пра якія колеры года распавядаецца ў вершы? Што пра іх гаворыцца? Зачытайце.
2. Якія словы ў вершы паўтараюцца шмат разоў? Якое значэнне мае такое паўтарэнне? Што яно надае тэксту? Пры чытанні выдзеліце гэтыя словы голасам.
3. Што сказалі дзеці прасторам і сонцу? Чаму? А што адказалі б вы?
4. Прачытайце верш самастойна і падрыхтуйцеся да выразнага чытання. Пры чытанні верша захоўвайце патрэбную інтанацыю, правільна вымаўляйце словы. Падумайце, які настрой вы перадасце пры чытанні ўголас.
5. Вывучыце верш на памяць.



Чытаем, абагульняем, правяраем сябе па раздзеле **«Ідзе вясна ў шумлівых водах...»**.

1. Прачытайце план да казкі «Вожык і ручаёк» Янкі Галубовіча. Якія пункты плана вы ўставілі б замест кропак?

а) Трухлявы пень.

б) ... .

в) Журчыць ручаёк.

г) Заснуў.

д) ... .

е) Паплыў.

ё) ... .

ж) Падзяка.

2. З якіх вершаў узятыя наступныя радкі:

а) «Зніклі завірухі,
К нам вясна прыйшла...»;

б) «Дзеці вырастуць праз лета
І пакінуць свой палетак...»;

в) «Веснавое сонца
Росы падбірае...»;

г) Усе колеры года
мы любім бясконца!»?

3. Прачытайце верш на памяць па яго пачатку:

а) «Спяць яшчэ пад снегам
Паплавы, палеткі...»;

б) «Ціха абуджаюцца
Росныя палі...»;

в) «Грэе сонца, свеціць сонца,
Блішчаць кветкі і трава...».

4. Што абазначаюць словы: «світка», «дзяцельнік», «ляшчына», «цыбаты», «клуня»? Праверце сябе па слоўнічках пасля тэкстаў.

5. Які з твораў адносіцца да апавядання? Назавіце правільны адказ:

а) «Сыны»;
б) «Вожык і ручаёк»;
в) «Шпак».

6. Правядзіце ў класе конкурс:

а) хто больш ведае загадак;
б) хто хутчэй адгадае загадку;
в) хто хутчэй прыдумае загадку;
г) хто больш ведае вершаў;
д) хто самы лепшы чытальнік?

7. Падрыхтуйце інсцэніроўку аднаго з твораў на выбар:

а) «Вожык і ручаёк»;

б) «Сыны».

8. Калі вы падумаеце, то апавяданне прыдумаеце.

«Адзін раз Саша і Коля ўбачылі каля свайго дома сабаку з падбітай лапай. Ён не мог ісці, і Коля ўзяў яго дадому...»

Раскажыце, што адбылося потым. Як сабака пасябраваў з хлопчыкам? Як жылося сабаку ў яго новым доме?

# ПРЫХОДЗІЦЬ ЛЕТА ЗВОНКАЕ...



## ЛЕТА

*Якуб Колас*

Прыйшло і лета. Куды ні глянь — усюды зе́лена, усё расце, усё наліваецца. Лісце на дрэвах вырасла ва ўвесь рост свой і весела трапечацца на сонцы. Весела пазірае стары лес, што разросся за сялом і цягнецца па краях поля. Кусты арэшніку, рабіны, чаромхі далёка параскідалі свае зялёныя галіны. Так зелена, так густа, што, здаецца, не пралезеш у лес! Птушкі аж глушаць сваімі галасамі, сваім шчэбетам. Некаторыя, раннія, ужо вывелі дзетак і клапатліва шчабечуць каля сваіх гняздзечак. Як няньki каля калыскі. Колькі кветак, колькі ўсялякіх матылёчкаў, мошак і пчолак! У паветры стаіць бясконцы шум і звон ад іх крылляў.

Поле пакрылася зеленню. Ужо выплыў авёс, ячмень. Цягнуцца палоскі гароху з чырвоненькімі і беленькімі кветачкамі. Там відаць зялёненькія стужкі лёну з сіненькімі галоўкамі. Бялее грэчка. Наліваецца жыта і ціха шаргаціць у полі сваімі сярэбранымі каласкамі. Жаваранкі рассыпаюцца над імі песнямі, кружачыся ў небе.

Зялёнаю шырокаю паласою раскінуўся луг паабапал рэчкі. Густая высокая трава, як мора, калышацца на ветры. Якога толькі колеру не знойдзеш кветак! Мільёны пчолак, чмялёў уюцца над імі са звонам і шумам. Так і цягне на прывольны луг, дзе так многа кветак, птушак, усякіх конікаў і матылёчкаў, песень, шуму і звону, дзе дыхае чысты, свежы ветрык.

Шчыраю рукою ўбрала лета ўвесь свет.



1. Якім апісаў Якуб Колас лета ў гэтым творы? Якія «летнія» словы для гэтага выкарыстаў?
2. Як вы разумееце выразы: «весела пазірае стары лес», «птушкі аж глушаць сваімі галасамі», «шчыраю рукою ўбрала лета ўвесь свет»?

3. Знайдзіце ў творы яшчэ трапныя выразы, якія характарызуюць надыход лета.
4. Які малюнак лета ў тэксце вам найбольш запомніўся? Зачытайце.
5. Прачытайце выразна апавяданне.
6. Падрыхтуйце апісанне поля (лугу) на выбар.

## ДОБРА ЎСІМ ЖЫВЕЦЦА ЎЛЕТКУ

*Генадзь Бураўкін*



Добра ўсім жывецца
ўлетку:
З неба сеецца цяпло,
На палянках і на ўзлеску
Столькі красак расцвіло.

Ад суніц прапахлі травы
Смачным водарам густым.
Вецер лёгкі і ласкавы
Ледзьве кратае лісты.

Звонка конікі стракочуць,
Ходзіць лесам цішыня.
Прытаіўся пасля ночы
Зайка шэры каля пня.



1. Які настрой перададзены ў вершы?
2. Якія выразы яскрава і дакладна адлюстроўваюць летнюю прыроду? Прачытайце.
3. Прачытайце верш шэптам і падрыхтуйцеся да выразнага чытання ўголас.
4. Якая галоўная думка верша? Пацвердзіце словамі з тэксту.
5. Вывучыце верш на памяць.

## САЛОДКІЯ ЛЕКІ

Казка

*Уладзімір Шайдаў*

### I

Жылі ў вёсцы дзед і бабка. Аднаго разу іх унучак гуляў з дзецьмі на вуліцы, напіўся халоднай вады і ахрып. Сядзіць у хаце і плача. Забедавала бабка, паклікала дзеда.

— Што рабіць? — пытаецца. — Унучак голас згубіў.

Дзед адразу здагадаўся, у чым прычына.

— Не бяда, — супакойвае. — Пчолак прыйдзецца прасіць. Яны вернуць унучку голас.

Узяў дзед унучка за руку і павёў у сад. Падышлі да вулляў. Дзед і кажа:

— Пчолкі добрыя! Майго ўнучка трэба мёдам палячыць — голас вярнуць.

— Што ж унучак нарабіў, чаму галасок згубіў? — спыталіся пчолкі.

— Вады халоднай папіў — вось і галасок згубіў.

## II

Загулі, зазвінелі пчолкі, узняліся хмаркай над садам і паляцелі хутчэй па мёд. Адны — на луг. Другія — у лес. Трэція — у поле.

— Прынясём, дзядуля, мядок, вернецца да ўнучка галасок.

Прыляцелі пчолкі да кветачак, закружыліся над імі ды і кажуць:

— Кветачкі прыгожыя, кветачкі духмяныя! Аддайце нам ваш мядок. У дзедавага ўнучка прапаў галасок. Ён мядку паспытае, горлачка балець перастане.

Кветачкі ласкава ўсміхнуліся і павярнулі свае галоўкі да яснага сонейка, каб

пчолкам лепш былі аддаць кропелькі нектáру.

— Бярыце, пчолкі, наш мядок ды нясіце хутчэй у дамок. Няхай унучак п'е мядок і верне сабе галасок.

Цэлы дзень лёталі пчолкі, насілі мядок для Віці. А пад вечар дзед зноў прывёў унучка ў сад.

Падышлі да чырвонага вулля.

— Пчолкі добрыя, працаўніцы слаўныя, — пытае дзед, — ці гатовы мядок?

Вылецела з доміка пчолка і загула:

— Вазьмі, дзядок, лугавы мядок! Няхай да ўнучка вернецца галасок, а сам ён няхай расце прыгожы, як васілёк!

Падзякаваў дзед пчолкам і ўзяў слоік лугавога мёду. Падышлі да зялёнага вулля.

— Пчолкі добрыя, працаўніцы слаўныя, — пытае дзед, — ці гатовы мядок?

Вылецела з доміка пчолка і загула:

— Вазьмі, дзядок, лясны мядок! Няхай да ўнучка вернецца галасок, а сам ён няхай вырасце моцны, як дубок.

Падзякаваў дзед пчолкам і ўзяў слоік ляснога мёду.

Падышлі да жоўтага вулля.

— Пчолкі добрыя, працаўніцы слаўныя, — пытае дзед, — ці гатовы мядок?

Вылецела з доміка пчолка і загула:

— Вазьмі, дзядок, палявы мядок! Няхай да ўнучка вернецца галасок, а сам ён няхай вырасце шчодры, як каласок.

Падзякаваў дзед пчолкам і ўзяў слоік палявога мёду. І ўнучак хацеў падзякаваць, але не змог — яшчэ голас не вярнуўся.

## III

У хаце пасадзіла баба ўнучка за стол, сама побач з дзедам села. Дзед узяў драўляную лыжку, пачаў унука салодкімі лекамі частаваць: спачатку лугавым мёдам, потым — лясным, а затым — палявым. З'еў хлопчык тры лыжкі мёду і адразу стаў такім, як пажадалі пчолкі. Зноў да яго вярнуўся галасок. Заўсміхаўся ён шчасліва, павесялеў адразу.

— Дзякуй вам, дзед і баба, дзякуй працавітым добрым пчолкам. Я зусім здаровы, у мяне нічога не баліць.



Усміхнуўся ў вусы дзед, засмяялася ад радасці баба. А ўнук хутчэй на вуліцу пабег.

І цяпер зноў гуляе з дзецьмі на вуліцы — прыгожы, як васілёк, моцны, як дубок, шчодры, як каласок.



Нектáр — цукрысты сок, які выдзяляюць расліны.



1. У каго дзед папрасіў дапамогі?
2. Як да гэтага аднесліся пчолкі? У каго прасілі мядку? Якія словы гаварылі кветачкі?
3. Што гаварылі дзеду і ўнуку ў садзе пчолкі пад вечар?

4. Якія словы ў творы паўтараюцца? Зачытайце. Які сэнс у іх укладзены аўтарам?
5. Што сказаў хлопчык, калі з’еў тры лыжкі мёду? Прачытайце.
6. Якімі словамі пачынаецца і заканчваецца казка? Прачытайце пачатак і канец казкі.
7. Якімі словамі з тэксту можна падпісаць малюнак?
8. Прачытайце казку яшчэ раз. Перакажыце.

## ДЗІВОСНЫ СВЕТ

*Міхась Пазнякоў*



Будзь жа чулым
Да прыроды.
Шмат дзівос
Навокал ёсць.

Я жадаю,
Каб заўсёды
Шанаваў ты
Прыгажосць.



1. Да чаго заклікае паэт? Чаго жадае?
2. Падрыхтуйцеся да выразнага чытання верша.

## СІНІЯ ЗВАНОЧКІ

*Васіль Хомчанка*

Прасторны луг, а па ўсім лузе званочкі — сінія-сінія.

Ідзе Паўлік па лузе, дакранаецца да кветкі, а яна:

— Дзінь... Дзі-і-нь...

«Званочкі звіняць!» — дзівіцца Паўлік. Ён спыняецца, задзірае ўверх адну сінюю чашачку, а там — пчолка.

— Дзі-нь,— трапеча яна крылцамі і звініць.

Падымае другі званочак, і ў тым — пчолка і таксама звініць. І амаль у кожным званочку — пчолка. Сядзіць і звініць.





1. З чаго дзівіўся Паўлік? Прачытайце.
2. Чаму твор названы «Сінія званочкі»? Падрабязна перакажыце тэкст.
3. Зрабіце малюнак да тэксту.

## ВЯСЁЛКА

*Пятро Глебка*

Хваліліся вербы
Ўборам зялёным,
А возера — сінім,
А ружы —
чырвоным.

Адна толькі ціха
Вясёлка маўчала,
Пакуль ад дажджынак
Уся не заззяла.

Заззяла квяціста
Над цэлай краінай —
Чырвоным,
Аранжавым,
Жоўтым і сінім.





1. Чым хваліліся вербы, возера, ружы?
2. Чаму толькі вясёлка маўчала? Якімі колерамі яна потым заззяла? Пацвердзіце словамі з тэксту.
3. Колькі колераў у вясёлкі? Назавіце іх.
4. Прачытайце верш самі сабе і падрыхтуйцеся да выразнага чытання ўголас. Рабіце паўзы на знаках прыпынку.
5. Вывучыце верш на памяць.

## ЖЫВЫ БАРОМЕТР

*Алесь Пальчэўскі*

На лета Міша паехаў гасцяваць у вёску да цёткі, якая працавала настаўніцай.

Хутка хлопчык прывык, пасябраваў з такімі ж, як сам, вучнямі і цэлымі днямі прападаў з імі то на рэчцы, то ў лесе.

— Цётка Паліна, мы сёння зноў пойдзем у лес, — сказаў Міша за снеданнем.

— Тады вазьмі з сабою плашч.

— Навошта?

— Можа быць дождж.

Міша засмяяўся:

— Адкуль вы ведаеце?

— А вунь зірні, што паказваюць наготкі.

Перад акном на градцы расло шмат кветак.

— На небе ні хмурынкі, а яны ўжо чакаюць дажджу, — сказала цётка. — Бачыш, хоць і цёпла, а наготкі не раскрылі пялёсткаў. Тыя раніцы аж зіхацелі, а сёння спяць.

— Я ні разу не бачыў, калі яны распускаюцца.

— Трэба, Мішачка, прыглядацца да таго, што вакол цябе. **Прырода — найцікавейшая кніга.** Запомні: перад дажджом белая лілея таксама аберагае свае суквецці ад дажджавых кропель, хоць і расце сама ў вадзе. А ці бачыў ты калі, як «плача» клён?

— Не.

— Прыглядзься, гэта цікава. У тым месцы, дзе чаранкі лістоў прыраслі да дрэва, на дождж выступаюць слёзы. Чаму? Перад дажджом у паветры з'яўляецца шмат вільгаці, а клён свае слёзы не можа выпарыць праз лісце, от і капае лішняя вада.

Ты, мусіць, не ведаеш, што і акацыя перад дажджом выдзяляе шмат нектáру? Гэта лёгка заўважыць. Калі над кветкамі акацыі многа ўсялякіх мошак, тады чакай дажджу.

Міша чуў гэта ўпершыню і не знаў, верыць ці не, а цётка казала далей:

— І дым, бачыш, з комінаў не слупам ідзе ўгору, а рассейваецца — таксама прыкмета на дождж. А ластаўкі высока ці нізка лятаюць? — спытала цётка.

— Над самай зямлёю, — паказаў хлопчык.

— А ўчора дзе лятала?

— Высока ў небе.

— Значыць, мошкі цісну́цца да зямлі перад дажджом, і ластаўкі зніжаюцца, каб лавіць іх.

Міша аж пляснуў рукамі:

— Ой, як цікава! Без барометра можна ведаць, якое надвор'е будзе. Адкуль вы, цётачка, даведаліся пра гэта?

— Што з кніжак, а болей са сваіх уласных назіранняў... Яшчэ заўваж, кветкі

могуць не толькі прадказваць надвор'е, але і паказваць гадзіны сутак, бо не кожная з іх распускаецца ў адзін і той жа час. Толькі трэба ўмець прыглядзецца. Паназірай сам, упэўнішся ў гэтым.



Чарано́к — частка сцябла, кораня або ліста, якая аддзяляецца ад расліны для размнажэння.



1. Пра які барометр ідзе размова ў тэксце?
2. Знайдзіце ў тэксце і зачытайце, як паводзяць сябе расліны перад дажджом. Якія іншыя прыкметы надвор'я вы ведаеце? Раскажыце.
3. Як вы разумееце выраз «Прырода – найцікавейшая кніга»?
4. Прачытайце апавяданне самастойна і падрыхтуйцеся адказаць на пытанні:
   а) Куды паехаў летам Міша?
   б) Чаму цётка Паліна вучыла Мішу?
   в) Па якіх прыкметах можна даведацца, што можа быць дождж? Зачытайце.
   г) Што вы можаце расказаць з уласнага вопыту пра назіранні за з'явамі прыроды?

5. Прачытайце размову цёткі Паліны і Мішы па асобах.
6. Падрыхтуйцеся да пераказу той часткі тэксту, якая вам найбольш спадабалася.

## НАША ЛАВАЧКА

*Васіль Хомчанка*

Мы з Толікам на двары паставілі лавачку. Добрую, са спінкай. Як толькі зрабілі, паселі і сядзім. Добра сядзець у цяньку пад ліпай. Колькі хочаш сядзі, каго хочаш запрашай пасядзець — лавачка наша.

Вось так сядзім мы адны дзесяць хвілін, дваццаць...

З дома выйшаў наш сусед дзед Андрэй. Убачыў лавачку, здзівіўся: нічога не было, а цяпер лавачка стаіць.

Мы пасунуліся.

— Калі ласка, — сказалі дзеду Андрэю. — Гэтую лавачку мы зрабілі.

Цяпер сядзім утрох. Дзед хваліць лавачку і нас малайцамі заве. Добра, кажа, у цяньку пасядзець.

З трэцяга пад’езда выйшаў яшчэ адзін дзед.

— Хадзі, Іван, пасядзі, — паклікаў дзед Андрэй.

Падышоў дзед Іван і спытаў:

— Гэта ты, Андрэй, зрабіў лавачку?

— Не, мы з Толікам,— пахваліўся я.

Я ўстаў і даў месца дзеду Івану. Потым Толік саступіў месца бабулі, якая падышла да нас.

Мы стаім, а два дзяды і бабуля сядзяць на нашай лавачцы.



— Няхай пасядзяць, — сказалі мы. — Паспеем насядзецца.

Пагулялі ў двары, пабегалі па вуліцы, вярнуліся, а на лавачцы сядзяць тры бабулі.

Схадзілі ў кіно, паабедалі, выйшлі на двор — зноў лаўка занятая. Нейкія дзядзька і цётка з дзіцем селі. Так у той дзень мы і не дачакаліся, калі можна будзе пасядзець на сваёй лавачцы. І на другі, і на трэці дзень тое ж самае — сядзяць людзі на ёй, а нас убачаць — хваляць:

— Малайцы, хлопцы. Такую добрую лавачку зрабілі.

Кожнаму хочацца пасядзець на лавачцы, а яна ж невялікая, толькі на тры чалавекі.

І рашылі мы зрабіць яшчэ адну лавачку, вялікую, каб усім хапіла месца. Узялі пілку, сякеру, цвікі, прынеслі дошкі.

— Цюк! Цюк! — стукае наша сякера.

Памагайце, малыя, мы робім другую лавачку. Большую, са спінкай. І для старых, і для малых.



1. Якую добрую справу зрабілі хлопчыкі?
2. Што ім гаварылі старэйшыя? Зачытайце.
3. Чаму хлопчыкі вырашылі зрабіць яшчэ адну лавачку?
4. Прачытайце тэкст самі сабе, а потым уголас тую частку, якая найбольш вам спадабалася.
5. Падрыхтуйцеся да пераказу адной з частак тэксту.
6. Знайдзіце словы ў тэксце, якімі можна падпісаць малюнак.

## ЛЯСНАЯ АЗБУКА

*Уладзімір Ліпскі*

Маша з дзедам любяць лес.

Кожным разам яны там нешта новае адкрываюць. Аднойчы ў лесе знайшлі... азбуку. Прыгадалі лясных жыхароў, убачылі, што расце ў лесе, што там ёсць, і адшукалі словы на ўсе літары азбукі. Калі не верыце — праверце.

**А.** Алешнік. Апенькі. Арэшнік. Асіна. Аўсянка.

**Б.** Баравік. Бяроза. Брусніцы. Буякі́.

**В.** Вавёрка. Верас. Вожык. Воўк. Вуж.



**Г.** Гадзюка. Голуб. Граб. Гаркуха. Глушэц.

**Д.** Дзяцел. Дуб. Дзік. Дзераза. Дрозд.

**Е.** Елка. Ельнік.

**Ж.** Жаўна́. Журавель. Жук. Журавіны. Жалуды.

**З.** Заяц. Зубр. Зязюля. Заранка.

**І.** Івалга. Іван-чай.

**К.** Казуля. Каліна. Каршун. Клён. Крушына.

**Л.** Ландыш. Ліса. Лісічкі. Лось.

**М.** Матылі. Мурашкі. Мядзведзь. Мухамор.

**Н.** Нара. Незабудкі.

**П.** Павук. Падасінавікі. Папараць. Пралескі.

**Р.** Рабіна. Рабчык. Рыжык. Радоўка.

**С.** Сава. Салавей. Страказа. Сарока. Сасна.

**Т.** Таўстуха. Трыпутнік.

**У.** Удод. Урочышча.

**Ф.** Філін. Фіялка.

**Х.** Хвойнік. Хвошч. Хмызняк. Хмель.

**Ц.** Цар-дуб. Цецярук. Цюльпан.

**Ч.** Чабор. Чарамша. Чарніцы. Чаромха.

**Ш.** Шыпшына. Шампіньёны. Шчаўе. Шэршні.

**Я.** Янот. Ясень. Ястраб. Яшчарка.



1. А цяпер, сябры, адкажыце: што вы ведаеце пра звяроў, птушак, насякомых, якіх назвалі Маша з дзедам? А пра дрэвы, грыбы, кветкі? Можа, бачылі нешта іншае, можа, сустракалі некага іншага ў сваёй мясцовасці?
2. На якія літары азбукі Маша з дзедам не спаткалі ў лесе нікога, не ўбачылі нічога?
3. У якую пару года яны хадзілі ў лес?

## КОТ-РЫБАК

### Казка









Пайшоў кот на рэчку рыбу лавіць.
Закінуў вудачку і чакае.
Выцягнуў кот акуня.
Потым кот закінуў вудачку яшчэ раз...



1. Разгледзьце малюнкі. Складзіце казку, выкарыстоўваючы малюнкі і сказы.
2. Што адбылося далей, дадумайце самі. Раскажыце.



Чытаем, абагульняем, правяраем сябе па раздзеле **«Прыходзіць лета звонкае...»**.

1. Вызначце, з якіх твораў узятыя гэтыя ўрыўкі:

а) «Жылі ў вёсцы дзед і бабка. Аднаго разу іх унучак гуляў з дзецьмі на вуліцы...»;

б) «Ідзе Паўлік па лузе, дакранаецца да кветкі, а яна:

— Дзінь... Дзі-інь...»;

в) «На лета Міша паехаў гасцяваць у вёску да цёткі...».

2. У якіх творах гаворыцца пра добрыя справы дзяцей? Выберыце правільны адказ:

а) «Наша лавачка»;

б) «Жывы барометр»;

в) «Лета».

3. Назавіце герояў твораў:

а) «— Ой, як цікава! Без барометра можна ведаць, якое надвор'е будзе»;

б) «— Гэта ты, Андрэй, зрабіў лавачку?»;

в) «— Вазьмі, дзядок, палявы мядок!».

4. Як можна ахарактарызаваць дзеда ў апавяданні «Салодкія лекі»? Выберыце правільны адказ:

а) добры;

б) разумны;

в) удзячны.

5. Прадоўжыце пераказ казкі па пачатку:

«Жылі ў вёсцы дзед і бабка. Аднаго разу іх унучак гуляў з дзецьмі на вуліцы, напіўся халоднай вады і ахрып...»

6. Складзіце невялікі тэкст «Выпадак на рэчцы». Пачніце яго так: «Аднойчы мы вудзілі рыбу пасярод ракі. Раптам...»

**Словы для выкарыстання:** *зацягнула хмарамі, павеяў вецер, выцягнулі лодку, бацька, грымнуў гром, ледзь дацягнулі да берага.*

# ТЫ — БАГАЦЦЕ МАЁ І ЛЮБОЎ...



## У ПОЛІ

*Янка Купала*

Грышка, хлопчык невялічкі,
У поле выйшаў з дому,
Люба там каля крынічкі
Хлопчыку малому!



У гушчары кустоў
зялёных
Многа розных пташак,
Кветак белых
і чырвоных,
Мошачак, мурашак...

Сядзе хлопчык
над крынічкай
І не зварухнецца,
Пазірае, як над дзічкай
Пташачка снуецца

І сваіх маленькіх дзетак
Корміць чарвячкамі.
Эх, як слаўна сярод кветак
Летнімі дзянькамі!..



1. Якія пачуцці ўзніклі ў вас пры чытанні верша?
2. Што ўбачыў хлопчык, калі выйшаў з дому? Прачытайце.
3. Прачытайце тэкст самі сабе і падрыхтуйцеся да выразнага чытання. Рабіце паўзы на знаках прыпынку.
4. Вывучыце верш на памяць.

## ДАРАГАЯ БЕЛАРУСЬ

*Пятрусь Броўка*

Слаўлю я свой край любімы,
незгаса́льную зару.
Як ты сэрцу майму міла,
дарагая Беларусь!

Залацістыя прасторы,
незлічона ясных зор,
рэкі ціхія, азёры,
галасісты шумны бор!

Ты нас ласкай атуліла,
і я ў шчасці гавару:
«Як ты сэрцу майму міла,
дарагая Беларусь!»



Незгаса́льны — нязгасны, такі, што гарыць увесь час і ніколі не гасне.



1. Зачытайце радкі верша, прасякнутыя любоўю да роднага краю.
2. Зрабіце малюнак на тэму «Слаўлю я свой край любімы!».

**БЕЛАРУСЬ — МАЯ РАДЗІМА**

*Артур Вольскі*

Якая прыгожая назва ў нашай краіны — Беларусь!

А яшчэ мы завём яе — Радзіма.

А яшчэ — Бацькаўшчына.

Радзіма — бо тут мы нарадзіліся, бо яна нам самая родная з усіх краін на цэлым свеце. Бацькаўшчына — бо яна дасталася

нам ад бацькоў нашых. А ім ад іхніх бацькоў — нашых дзядоў. А далей — ад прадзедаў, ад прапрадзедаў... І так — аж да самых далёкіх продкаў. Над шырокімі палямі, над зялёнымі лугамі, над блакітнымі стужкамі рэк і рачулак лунаюць у высокім небе белакрылыя буслы. Таму паэт назваў краіну нашу зямлёю пад белымі крыламі.



1. З якім пачуццём да сваёй Радзімы аўтар пісаў гэты твор?
2. Чаму Беларусь называюць зямлёю пад белымі крыламі? Чаму нашу краіну мы называем яшчэ Бацькаўшчынай, Радзімай?
3. Прачытайце тэкст самі сабе. Падрыхтуйцеся да выразнага чытання.
4. Раскажыце, якая ваша Айчына, чым яна адметная.
5. Параўнайце тэксты «Беларусь – мая Радзіма» Артура Вольскага і «Дарагая Беларусь» Петруся Броўкі. Як вы думаеце, чаму яны змешчаны менавіта ў гэтым раздзеле?

## НЯМА ПРЫГАЖЭЙ

*Артур Вольскі*



Высозныя сосны
адвечнага бору —
пад самае сонца,
пад самыя зоры.

Зубры ў гушчары
пратапталі сцяжыны
туды, дзе ніводнай
няма каляіны.

Маліна сама
так і просіцца ў жмені,
грыбы — у кашы,
бы ў загоне алені.

Вітаюць нас
птушкі і дрэвы
гасцінна...
Ну дзе яшчэ знойдзеш
такія мясціны?

Усім на зямлі
я давесці бяруся:
няма прыгажэй
ад маёй Беларусі!



1. Як паэт піша пра Беларусь?
2. За што ён любіць свае мясціны?
3. У якім тэмпе трэба чытаць гэты верш?
4. Прачытайце верш самастойна і падрыхтуйцеся да выразнага чытання.
5. Вывучыце верш на памяць.

## ЦЯПЕР Я ВЕДАЮ, ЯКАЯ БЕЛАРУСЬ

*Васіль Сухамлінскі*

На Украіну прыехалі ў госці беларускія дзеці. Маленькая Аксана пасябравала з дзяўчынкай Марысяй. Павяла Аксана Марысю ў поле. Да самага краю зямлі раскінулася бязмежнае поле пшаніцы. Жоўтае поле, нібы золата. А над ім — сіняе неба.

Марыся стаяла перад бясконцым пшанічным полем, захопленая яго хараством.



— Якая прыгожая Украіна! — паціху сказала яна Аксане.

Марыся пачала расказваць пра Беларусь: перад вокнамі яе дома вось такое ж бязмежнае поле лёну, а лён сіні, як неба.

Аксана слухала Марысю, але не магла ўявіць: як жа гэта — поле сіняе, як неба, а над полем — сіняе неба. Тады ж увесь свет у Беларусі сіні? Наступнаю вясною Аксана прыехала ў госці да Марысі. Раніцай яны выйшлі з Марысінай хаты. Да самага краю зямлі было бязмежнае поле лёну.

Сіняе поле, як неба. А над ім — сіняе неба.

— Цяпер я ведаю, якая прыгожая Беларусь! — сказала ў захапленні Аксана.



1. Куды паехалі беларускія дзеці? З кім пасябравала Аксана?
2. Што ўбачыла Марыся ў полі?
3. Пра што даведалася Аксана ад Марысі? Чаго яна не магла ўявіць? Чаму?
4. Чаму Аксана сказала: «Цяпер я ведаю, якая прыгожая Беларусь!»?
5. Прачытайце апавяданне самастойна яшчэ раз і падрыхтуйцеся да падрабязнага пераказу тэксту.

## Прыказкі

На чужой старане і вясна не красна.

Родная зямелька як змораnаму пасцелька.



Як вы разумееце сэнс прыказак?



Чытаем, абагульняем, правяраем сябе па раздзеле **«Ты — багацце маё і любоў...»**.

1. З якіх твораў узятыя ўрыўкі:

а) «Таму паэт назваў краіну нашу зямлёю пад белымі крыламі»;

б) «Да самага краю зямлі было бязмежнае поле лёну»;

в) «Як ты сэрцу майму міла...»;

г) «...а лён сіні, як неба»;

д) «...грыбы — у кашы,
бы ў загоне алені»?

2. Хто аўтар паэтычных радкоў:

а) «Слаўлю я свой край любімы,
незгасальную зару...»;

б) «...няма прыгажэй
ад маёй Беларусі!»;

в) «Сядзе хлопчык над крынічкай
І не зварухнецца...»?

3. Назавіце творы з раздзела, у якіх услаўляецца наша Радзіма.

4. Прачытайце на памяць верш, які найбольш спадабаўся вам у гэтым раздзеле.

5. Складзіце невялікі тэкст «Мая Радзіма».

## АДГАДКІ

С. 15. Ёлка.
С. 21. Ёлка.
С. 67. Бярозка.

## ЗМЕСТ

### Зноў да нас прыйшла зіма...

## Ідзе вясна ў шумлівых водах...

## Прыходзіць лета звонкае...



## Ты — багацце маё і любоў...

Вучэбнае выданне

**Вольскі** Артур Вітальевіч
**Гімпель** Ірына Андрэеўна

**ЛІТАРАТУРНАЕ ЧЫТАННЕ**

Падручнік
для 2 класа ўстаноў агульнай сярэдняй адукацыі
з беларускай мовай навучання

У дзвюх частках
Частка 2

Нач. рэдакцыйна-выдавецкага аддзела *Г. І. Бандарэнка*
Рэдактар *Ю. А. Якаўчэнка*
Мастакі *Л. А. Мурашка, Н. А. Хромава*
Мастацкі рэдактар *І. А. Усенка*
Камп’ютарная вёрстка *І. У. Шутко*
Карэктары *С. М. Алава, К. В. Шобік*

Падпісана ў друк 09.06.2011. Фармат 70×90 $^{1}/_{16}$. Папера афсетная.
Гарнітура Школьная. Друк афсетны. Ум. друк. арк. 8,78.
Ул.-выд. арк. 3,0 + 0,47 форз. Тыраж 21 600 экз. Заказ 446

Навукова-метадычная ўстанова «Нацыянальны інстытут адукацыі»
Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь.
ЛИ № 02330/0494469 ад 08.04.2009. Вул. Караля, 16, 220004, г. Мінск

ААТ «Паліграфкамбінат імя Я. Коласа».
ЛП № 02330/0150496 ад 11.03.2009. Вул. Чырвоная, 23, 220600, г. Мінск

(Назва і нумар школы)

| Навучальны год | Імя і прозвішча вучня | Стан падручніка пры атрыманні | Адзнака вучню за карыстанне падручнікам |
|---|---|---|---|
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |